ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №53 (4411) СЕРАДА, 22 чэрвеня 1994 года | Кошт па падпісцы — 20 руб., у розніцу — 100 руб.

## НГ-ІНФАРМ

ЮБІЛЕІ



Сямідзесяцігоддзю народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава было прысвечана свята, якое адбылося ў Мінску ля помніка Я.Купалу. Кветкі і добрыя словы прынеслі любімаму пісьменніку паклоннікі яго таленту. Гучалі вершы, народныя песні, урыўкі з твораў юбіляра.

На здымку: кветкі юбіляру.

Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА.

## З дыпломам музычнай

Гарадзейскай дзіцячай музычнай школе Нясвіжскага раёна споўнілася 25 гадоў. За гэты перыяд са сцен школы выйшла 326 юных аматараў музыкі. Многія выпускнікі атрымалі прафесіі, некаторыя з'яўляюцца студэнтамі Беларускай музычнай акадэміі.

З гэтай нагоды ў школе адбылося ўрачыстае свята. Імяніннікаў віншавалі дырэктар навучальнай установы І.І.Мароз, загадчыца аддзела культуры райвыканкама Л.І.Віхрова, старшыня выканкама пасялковага Савета народных дэпутатаў Г.П.Бірукова. На свяце 14 выпускнікам былі ўручаны пасведчанні аб заканчэнні музычнай школы.

У заключэнне калектыў школы выступіў з цікавай канцэртнай праграмай.

Іван ХВІР.

## ВАХТА ПАМЯЦІ

У адпаведнасці з планам святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Міністэрствам адукацыі, Міністэрствам абароны, Камітэтам па справах моладзі пры Савеце Міністраў, Рэспубліканскім саветам арганізацыі ветэранаў з 11 па 24 чэрвеня на тэрыторыі Віцебскай вобласці і з 13 па 25 чэрвеня на тэрыторыі Магілёўскай вобласці (Круглянскі раён) праводзіцца Рэспубліканская "Вахта Памяці", у якой прымаюць удзел каля 500 навучэнцаў з усіх куткоў нашай краіны. Вучні сустракаюцца з ветэранамі, удзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны, дапамагаюць сем'ям загінуўшых, робяць зорныя паходы па мясцінах былых баёў.

40 40
14 17 00

ПЕРШАЕ ІНТЭРВ'Ю НА НОВАЙ ПАСАДЗЕ

Генадзь ДЫЛЯН:

## "Ёсць падставы для таго, каб грамадства ганарылася настаўнікамі"

**На пытанні карэспандэнта "Настаўніцкай газеты" адказвае намеснік міністра адукацыі Генадзь Дзям'янавіч ДЫЛЯН.**

**— Генадзь Дзям'янавіч, раскажыце, калі ласка, пра сябе: дзе вучыліся, дзе працавалі, якую пасаду займалі да назначэння намеснікам міністра.**

— Мне 46 гадоў, мінчанін. Тут скончыў сярэднюю школу і адразу паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага. Так склалася, што ў сістэме адукацыі працаваў настаўнікам, памочнікам міністра асветы, а затым пацягнула на практычную работу. Пачынаў з пасады намесніка дырэктара НВК. Атрымлівалася так, што сам ніколі не шукаў работу, яна мяне знаходзіла. Таму і давялося папрацаваць дырэктарам школы, дырэктарам міжшкольнага НВК, загадчыкам райана. У апошні час — начальнікам упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама і зараз — намеснік міністра адукацыі.

**— Цяпер у Беларусі праводзіцца рэформа сістэмы адукацыі, у тым ліку і агульнаадукацыйнай школы. Што Вы лічыце галоўным, прыярытэтным?**

— Значныя змены ў сістэме адукацыі пачаліся ў сярэдзіне 80-х гадоў, і працэс рэфармавання працягваецца і сёння. Прыярытэтаў у гэтай няпростай рабоце дастаткова, але, безумоўна, галоўнай дзяржаўнай мэтай з'яўляецца стварэнне нацыянальнай, адпавядаючай сучасным патрабаванням, сістэмы адукацыі. Для дасягнення гэтай вялікай мэты патрабуецца вырашэнне шэрагу складаных задач.

**— Што робіцца ў нашай краіне па распрацоўцы новага зместу адукацыі з улікам нашых нацыянальных асаблівасцей? Як Вы ацэньваеце выкананне Закона аб мовах?**

— Адразу зазначу, што нацыянальнай школы ў Беларусі ніколі не было. Існавала сетка беларускамоўных школ (амаль усе ў сельскай мясцовасці), невялікі нацыянальны кампанент прысутнічаў у навучальных планах школы. Але нацыянальная школа — гэта не толькі беларуская мова і літаратура, гэта паняцце значна шырэйшае. На мой погляд, нацыянальная школа, перш за ўсё, павінна быць са сваім арыгінальным зместам адукацыі. Такі змест адукацыі сёння распрацоўваецца і ўжо ўкараняецца ў навучальны працэс школы — зацверджаны графік паслядоўнага ўвядзення новых навучальных праграм і адпаведных падручнікаў для агульнаадукацыйных школ Рэспублікі. Пад новы змест адукацыі неабходны новыя падыходы, методыкі, педагагічныя тэхналогіі. І гэта яшчэ адна рыса будучай нацыянальнай школы. Тут не абысціся і без адпаведнай нацыянальнай педагагічнай навукі.

Некалькі слоў аб выкананні Закона аб мовах, у прыватнасці аб становішчы з укараненнем беларускай мовы. Калі весці размову аб колькасных паказчыках, то сітуацыя больш-менш добрая. Напрыклад, у першых класах на беларускай мове навучаецца 76 працэнтаў вучняў. Аднак сёння на першае месца выходзяць праблемы якасці выкладання на беларускай мове прадметаў навучальнага плана школы, ПТВ. Для гэтага неабходна ў поўным аб'ёме забяспечыць настаўнікаў і вучняў неабходнымі падручнікамі, метадычнымі матэрыяламі, дапаможнікамі, картамі па гісторыі, геаграфіі і г.д. Не ў апошнюю чаргу поспех залежыць і асабіста ад кожнага настаўніка.

**— Вельмі вострая праблема сёння — забеспячэнне школ падручнікамі новага пакалення. На што могуць спадзявацца настаўнікі ў бліжэйшы час?**

— Як было адзначана вышэй, падручнікі распрацоўваюцца і паступаюць па меры падрыхтоўкі адпаведных навучальных праграм па прынятаму графіку пераходу на новы змест адукацыі. Па гэтаму графіку працуе Навукова-метадычны цэнтр навучальнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі. Да першага верасня цэнтр па плану павінен забяспечыць выданне 124-х падручнікаў. Аднак сёння выклікаюць занепакоенасць толькі два падручнікі (па сусветнай гісторыі для 7 і 10 класаў). Астатнія паступяць у школы да новага навучальнага года.

Настаўнікі павінны ведаць, што новыя дапаможнікі, падручнікі ствараліся ў кароткія тэрміны. Адсюль і пэўныя недахопы, якія па меры апрабавання будуць ухілены.



**— У Мінску, калі Вы ўзначальвалі гарадское ўпраўленне адукацыі, нямала рабілася па гуманізацыі і дыферэнцыяцыі навучання, адкрыцці новых тыпаў навучальных устаноў: гімназій, ліцэяў, каледжаў. Як бачацца Вам гэтыя праблемы з вышыні пасады намесніка міністра?**

— На мой погляд, бачацца некалькі іншымі. Умовы Мінска, які з'яўляецца буйным цэнтрам культуры, адукацыі, навукі, вытворчасці — гэта, безумоўна, умовы не для большасці рэгіёнаў рэспублікі. Таму тут і больш магчымасцей для дыферэнцыяцыі навучання і стварэння навучальных устаноў новага тыпу, што дазваляе выкарыстоўваць як знешнія формы дыферэнцыяцыі, так і унутраныя. У прыватнасці, у невялікіх гарадах, пасёлках, вёсках падстаў для першага шляху дыферэнцыяцыі амаль няма, а для другога ёсць. Усім кіраўнікам устаноў адукацыі, настаўнікам, якія жадаюць выкарыстоўваць новыя падыходы да навучання дзяцей, неабходна ўважліва пазнаёміцца з матэрыяламі па пераходу на новы змест адукацыі і, у прыватнасці, са зместам перспектыўнага навучальнага плана сярэдняй агульнаадукацыйнай школы, які надрукаваны ў Зборніку нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі (1994г., №3).

Што датычыцца праблем гуманізацыі, скажу коратка. Так, у Мінску два гады таму назад распачата работа па ўкараненні элементаў гуманізацыі ў навучальна-выхаваўчы працэс. Ініцыятыва ўпраўлення адукацыі знайшла разуменне і добрую падтрымку ва ўстановах адукацыі, але зроблены толькі першыя крокі. На мой погляд, праблемы гуманізацыі школы залежаць не толькі ад сістэмы адукацыі. Гэта агульнадзяржаўная праблема, і вырашаць яе трэба сумеснымі намаганнямі.

**— Што б мы ні гаварылі пра сённяшнія фінансавыя і іншыя цяжкасці школы, але відавочна, што эфектыўнасць навучання і выхавання залежыць найперш ад настаўніка. Што, на Ваш погляд, трэба зрабіць для таго, каб настаўнік меў больш грунтоўную і — што вельмі важна — своечасовую метадычную і навуковую падтрымку?**

— Пры ўсіх фінансавых цяжкасцях, пры тым, што сёння ў некаторых рэгіёнах настаўнікі і заработную плату атрымліваюць несвоечасова, ёсць падставы для таго, каб наша грамадства ганарылася сваімі настаўнікамі. Безумоўна, і дзякуючы настаўніцтву, у Рэспубліцы пераадольваюцца разбуральныя працэсы ў сістэме адукацыі. Ва ўсіх установах працуюць тысячы энтузіястаў, творчых педагогаў, яны падтрымліваюць высокі ўзровень сістэмы адукацыі.

Ёсць упэўненасць, што ў бліжэйшым будучым у краіне будуць створаны ўмовы для больш грунтоўнай, своечасовай метадычнай і навуковай падтрымкі настаўніка. Праблемы відавочныя, але ўжо сёння праз новыя падыходы, структурныя змены, распрацоўкі новага нацыянальнага зместу адукацыі закладваецца добры падмурак для вырашэння гэтых праблем.

**— І апошняе пытанне: чым займаецца намеснік міністра ў вольны час? Што Вы любіце? Ці выпадае магчымасць наведаць кіно, тэатр, музей? Як ставіцца да Вашых службовых клопатаў Ваша сям'я?**

— Вольнага часу амаль няма, здаецца, на новай пасадзе яго і ўвогуле не будзе. Мае інтарэсы — кніга, прырода, часам тэатр, люблю добрую музыку, песню. Сям'я да маіх службовых абавязкаў ставіцца з павагай і разуменнем. На жаль, сам я належнай увагі сям'і ўдзяліць не заўсёды магу.

Гутарку вёў
Міхась АНІСЕНКА.

## НГ-ІНФАРМ

## МІЖНАРОДНЫЯ КАНТАКТЫ

У рамках XXX штогадовай праграмы падрыхтоўкі кіраўнікоў у галіне адукацыі і кіравання ЮНЕСКО і Міжнародны інстытут планавання адукацыі ў Парыжы арганізавалі доўгатэрміновыя курсы для падрыхтоўкі кваліфікаваных спецыялістаў у галіне аналізу, планавання і ажыццяўлення палітыкі і планаў развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі.

Курсы і праграма навучання на іх уключаюць два этапы. Першы — з 1 па 30 верасня 1994 года — праходзіць у краіне пражывання па індывідуальнай праграме на матэрыялах, дасылаемых Міжнародным інстытутам планавання адукацыі. Другі — з 1 кастрычніка 1994 г. па 31 мая 1995 года — мяркуе навучанне непасрэдна ў інстытуце ў Парыжы. На гэтым этапе слухачам прапануюць цыкл лекцый па праблемах планавання адукацыі і адукацыйнай палітыкі ў розных краінах, спецыялізаваныя семінары, азнаямленне з найноўшымі методыкамі і тэхналогіямі адукацыйнага працэсу.

Навучанне тут накіравана на актыўны ўдзел кожнага слухача ў дыскусіях, дыспутах, аглядах і аналізе рэфератаў, рабоце з персанальным камп'ютэрам. Афіцыйная мова — англійская або французская. Узрост слухачоў не павінен перавышаць 45 гадоў. Расходы па навучанню кандыдата аплочваюць альбо самі асабіста, альбо праз арганізацыю ці дабрачынны фонд, які дасылае іх на вучобу. Для зацікаўленых асоб паведамляем адрас, куды неабходна звярнуцца з заяўкай: Падрыхтоўчыя курсы. Міжнародны інстытут планавання адукацыі. 7—9, вуліца Яўгена Дэлакруа, 75116, Парыж, Францыя. Факс: (1)40728386.

* * *

15—18 чэрвеня ў Калумбійскім універсітэце ў Нью-Ёрку адбудзецца міжнародная рабочая сустрэча вучоных пад назвай "Сучасны стан адукацыі ў Расіі, ва ўсходнееўрапейскіх і еўразійскіх краінах: тэндэнцыі развіцця і барацьба за рэформы". Сустрэчу арганізуюць Інстытут Гарымана Калумбійскага універсітэта, Інстытут вывучэння савецкай адукацыі Індыянскага універсітэта і Цэнтр адукацыі Нямецкага інстытута вывучэння краін Усходняй Еўропы, якія ўваходзяць у Асацыяцыю па даследаванню славянскіх і еўразійскіх сістэм адукацыі.

Асацыяцыя створана нядаўна. У яе ўваходзяць вучоныя з розных інстытутаў, універсітэтаў і навуковых цэнтраў, якія займаюцца даследаваннямі ў галіне параўнальнай адукацыі і тэндэнцый развіцця расійскай, усходнееўрапейскай і еўразійскай адукацыйных сістэм. Сваёй асноўнай мэтай Асацыяцыя лічыць развіццё сеткі інфармацыйных банкаў даных па гэтах рэгіёнах, аб'яднанне намаганняў універсітэцкіх вучоных і ўрадавых органаў, а таксама шматлікіх фондаў у распрацоўцы, аналізе і вывучэнні розных адукацыйных праектаў і праграм, правядзенне міжнародных праблемных калёквіумаў, семінараў і канферэнцый.

З боку вучоных, якія прыедуць з Расіі і, магчыма, нашай краіны, арганізатары канферэнцыі хацелі б пачуць даклады і паведамленні па наступных тэмах: уплыў савецізацыі на нацыянальныя сістэмы адукацыі; рэформы існуючых сістэм адукацыі з 1989 або 1991 года, адраджэнне і станаўленне кампаратывісцкіх міжнародных даследаванняў у краінах былога Савецкага Саюза; значэнне і перспектывы тэхнічнай дапамогі і супрацоўніцтва з заходнімі краінамі ў паскарэнні адукацыйных рэформ і г.д.

Для тых, хто не зможа непасрэдна ўдзельнічаць у рабоце канферэнцыі, але хацеў бы паслаць туды свае даклады ці атрымаць яе матэрыялы, паведамляем адрас, па якім трэба звяртацца: Mark S. Johnson, ASEER, 246, Hawthorhe St., Memphic, TN 38112, USA.

* * *

24—26 лістапада ў Лондане адбудзецца чарговая штогадовая канферэнцыя Еўрапейскай Асацыяцыі міжнароднай адукацыі (ЕАМА), членамі якой з'яўляюцца больш як 1200 вучоных-спецыялістаў па праблемах вышэйшай параўнальнай адукацыі з 39 краін.

ЕАМА была заснавана нядаўна, у 1989 годзе, яе штаб-кватэра размешчана ў Амстэрдаме, дзе працуюць пастаянны сакратарыят і выканаўчы савет, які складаецца з 15 членаў з 13 краін, прэзідэнта савета і яго віцэ-прэзідэнта. У цяперашнім складзе савета — А.Янчэўскі, прарэктар Электратэхнічнага універсітэта Санкт-Пецярбурга.

Каб стаць членам Асацыяцыі, неабходна заплаціць 175 галандскіх гульдэнаў і атрымаць адпаведны міжнародны сертыфікат. Галоўнай сваёй задачай ЕАМА лічыць стымуляванне і інтэрнацыяналізацыю праблем вышэйшай адукацыі ў Еўропе і іншых краінах, яе якаснае паляпшэнне пры дапамозе абмену інфармацыяй і ўкаранення ў навучальны працэс найноўшых методык і тэхналогій, міжнароднае супрацоўніцтва вучоных і выкладчыкаў вышэйшай школы.

У структуры Асацыяцыі працуюць 7 прафесійна арыентаваных рабочых секцый, яна выдае ўласны часопіс і распаўсюджвае іншыя дакументы і матэрыялы. Рэгулярна праводзяцца штогадовыя курсы па інтарэсах і канферэнцыі. На чарговую, шостую па ліку сваю канферэнцыю, ЕАМА запрасіла і прадстаўнікоў нашай рэспублікі, у прыватнасці, вучоных Нацыянальнага інстытута адукацыі.

Уладзімір СЦЯПАНАЎ,
старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі.

ПАВЕДАМЛЕННЕ ПРЭС-ЦЭНТРА МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ

# Вырашаць адукацыйныя пытанні разам з В.Ф.Кебічам

## ДА ТАКОЙ ВЫСНОВЫ ПРЫЙШЛІ ЎДЗЕЛЬНІКІ НАРАДЫ ДЫРЭКТАРАЎ СЯРЭДНІХ АДУКАЦЫЙНЫХ ШКОЛ І ПРАФЕСІЙНА-ТЭХНІЧНЫХ ВУЧЫЛІШЧАЎ МІНСКА, ШТО АДБЫЛАСЯ 16 ЧЭРВЕНЯ Ў ПАЛАЦЫ МОЛАДЗІ І ЮНАЦТВА

У нарадзе, прысвечанай абмеркаванню праблем развіцця адукацыі ў Мінску, прынялі ўдзел першы намеснік Старшыні Савета Міністраў М.Мясніковіч і міністр адукацыі В.Гайсёнак. Абмен думкамі праходзіў без цяжкаважных прэзідыумаў ва ўтульнай канферэнц-зале ў атмасферы даверу і шчырасці, хаця падчас вастрыня ўзнятых пытанняў даводзіла аўдыторыю да праяўлення эмоцый. Нездарма кажуць: складаны час — складаныя праблемы. Адкрываючы нараду, старшыня Мінскага гарадскога Савета А.Герасіменка даў падрабязную інфармацыю пра тое, у якім стане знаходзяцца зараз мінскія навучальныя ўстановы, аргументаваў надзённасць пераходу на новы змест адукацыі, укараненне канцэпцыі выхавання ў нацыянальнай школе. Адзначалася, што ў бягучым годзе ў Мінску функцыянуе 609 устаноў адукацыі, якія вызначылі свае прыярытэтныя задачы, галоўныя з якіх: укараненне комплексу мер, накіраваных на гуманізацыю навучальна-выхаваўчага працэсу, абнаўленне арганізацыйна-педагагічнага забеспячэння ў ПТВ як умова прафесійнага станаўлення і развіцця асобы, стварэнне сеткі пошуку і развіцця адораных дзяцей, стварэнне гарадскога саюза дзіцячых грамадскіх арганізацый.

У горадзе 124 агульнаадукацыйныя школы атрымалі статус беларускіх. З 1 верасня да гэтай лічбы прыбавяцца яшчэ 12. Ад агульнай колькасці першакласнікаў 64% навучаецца ў беларускіх класах. Працягваецца далейшае развіццё агульнаадукацыйных устаноў новага тыпу і школ з паглыбленым вывучэннем асобных прадметаў або з арыгінальным ухілам. На 1 верасня ў горадзе будзе працаваць 13 гімназій, 4 ліцэі, 1 каледж.

З мэтай забеспячэння непарыўнай прафесійнай адукацыі створаны 3 навучальна-прафесійныя цэнтры (дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Партызанскім і Першамайскім раёнах), 6 вышэйшых прафесійна-тэхнічных вучылішчаў (будаўнікоў, электронікі, сферы абслугоўвання, чыгуначнага транспарту, гандлю, вышэйшае паліграфічнае вучылішча).

У 1994 годзе запланавана ўвесці ў эксплуатацыю пяць агульнаадукацыйных школ і тры прыбудовы да дзеючых школ (школы №№ 165, 167, 176) на 6408 вучнёўскіх месцаў, 6 дзіцячых дашкольных устаноў на 1980 месцаў, 2-ю чаргу гарадскога Палаца для дзяцей і моладзі. Аднак трэба адзначыць, падкрэсліў мэр нашай сталіцы, што па прычыне адсутнасці дастатковых сродкаў перанесены на 1995 год тэрмін уводу школы № 16 у новым мікрараёне Чырвоны Бор-2, школы № 19 у мікрараёне Чкалаўскі, спынена будаўніцтва школы-інтэрната для дзяцей з дрэнным зрокам, дзіцячага сада ў мікрараёне Сухарава-3.

У вырашэнні шэрагу пытанняў пэўную дапамогу аказвае ўрад. У час сустрэчы В.Ф.Кебіча ў маі была абяцана дадатковая дапамога гораду і, у прыватнасці, установам адукацыі. Яе мы адчуваем ужо зараз, сказаў Аляксандр Герасіменка. Савет Міністраў распараджэннем ад 30 мая 1994 г. №529р павялічыў асігнаванні на датацыі мясцовым бюджэтам на II квартал за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, што дазволіць забяспечыць стабільнае фінансаванне і, у першую чаргу, выдаткаў на выплату заработнай платы, адпускных.

Пасля выступлення старшыні Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў слова ўзяў міністр адукацыі В.Гайсёнак.

Праблемы адукацыі і праблемы сталіцы ў цэлым непарыўна звязаны, адзначыў ён. Вырашэнне гэтых праблем знаходзіць разуменне ва ўрадзе. Шмат зроблена для таго, каб тэзіс аб прыярытэце адукацыі стаў рэчаіснасцю.

Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, на складаныя палітычныя абставіны, мы захавалі стабільнасць работы сістэмы адукацыі, не дапусцілі ў ёй разбуральных працэсаў. Створана надзейная заканадаўчая база для развіцця сістэмы адукацыі і яе паступовага рэфармавання ў адпаведнасці з патрэбамі жыцця.

Палажэнні Канстытуцыі Беларусі, Законы "Аб адукацыі", "Аб мовах", "Аб нацыянальных меншасцях", "Аб правах дзіцяці" ствараюць той заканадаўчы арыенцір, па якім павінна рухацца сістэма адукацыі. Урадам распрацавана і зацверджана Канцэпцыя адукацыі і выхавання. Прынята Праграма развіцця адукацыі да 2000 года, добра ўзважаная і рэальная. Яна павінна забяспечыць нармальныя ўмовы для функцыянавання, развіцця адукацыі. Зараз распрацоўваецца нацыянальны план дзеянняў па выкананні Закона "Аб правах дзіцяці".

Якой бы мы хацелі бачыць у будучым нашу сістэму адукацыі? Перш за ўсё яна павінна быць скіравана на асобу, на кожную без выключэння асобу вучня. Выяўленне талентаў і схільнасцей, іх развіццё, поўная рэалізацыя фізічнага і маральнага патэнцыялу чалавека, і праз гэта — усебаковая падрыхтоўка яго да жыцця. Такой бачыцца дзейнасць будучай навучальнай установы.

Навучальная ўстанова павінна не толькі ўзбройваць сваіх выхаванцаў ведамі, але і фарміраваць у іх сістэму духоўных каштоўнасцей, павагу да іншых людзей і грамадства. Усё гэта мы называем адным словам — выхаванне.

Без вырашэння праблемы выхавання, без стварэння новай сістэмы выхаваўчай работы з моладдзю мы не здолеем вырашыць задачу ўздыму нашага грамадства да цывілізаванага жыцця. Сёння мы стаім на краі духоўнай бездані. Сёння амаральнасць становіцца правілам, ашуканства і падман — звычкай, цынізм — годнасцю. Сярод падлеткаў і моладзі расце злачыннасць, непавага да закона. Самыя рашучыя дзеянні праваахоўных органаў не змогуць спыніць гэтыя працэсы, калі на іх не будуць звяртаць увагу бацькі, усё наша грамадства і, безумоўна — школа, навучальныя ўстановы.

Сёння можна часта чуць, што мы згубілі ідэалы і нам няма на чым выхоўваць нашу моладзь. Не магу з гэтым пагадзіцца. Так, сёння ідэалогія палітычных партый і іншых аб'яднанняў не можа ўстанаўлівацца ў якасці абавязковай. Гэтага патрабуе наша Канстытуцыя. Але ёсць духоўныя каштоўнасці, якія выпрацаваны чалавецтвам на працягу стагоддзяў і нясуць вялізны стваральны зарад. Перш за ўсё гэта маральныя каштоўнасці хрысціянскага вучэння, якія яшчэ называюць агульначалавечымі каштоўнасцямі, гэта каштоўнасць гістарычнай спадчыны, гэта любоў да роднай зямлі, патрыятызм.

Іншая справа, што, адмаўляючы ідэалагічны падыход у выхаванні, мы паспяшаліся адмовіцца і ад добра напрацаваных форм такога выхавання, заснаваных на калектыўнай дзейнасці дзяцей і падлеткаў. Лічу, што ў бліжэйшы час урад павінен прыняць шэраг мер па дадатковай падтрымцы дзіцячых рухаў, аб'яднанняў і таварыстваў. Такое аб'яднанне ўжо ствараецца ў Мінску. Гэты вопыт заслугоўвае ўвагі.

Асаблівая ўвага павінна быць звернута на патрыятычнае выхаванне моладзі праз ушанаванне подзвігу нашых бацькоў і дзядоў у перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Напярэдадні — свята вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Трэба зрабіць усё магчымае, каб нашы дзеці зразумелі і асэнсавалі веліч гэтага подзвігу, каб ветэраны былі акружаны іх пашанай і ўвагай.

Школа асобы — гэта школа з высокім узроўнем індывідуалізацыі навучання і разнастайнымі адукацыйнымі тэхналогіямі. Першыя раcткі такіх школ (гімназіі, ліцэі) у нас ужо з'явіліся. Большасць з іх арыентавана на здольных, адораных дзяцей. Конкурс пры паступленні ў такія ўстановы часам значна перавышае конкурс на самыя прэстыжныя спецыяльнасці ў ВНУ. Але не трэба забываць і аб дзецях, якія вучацца ў самых звычайных школах. Для іх таксама трэба стварыць усе ўмовы для развіцця іх магчымасцей і здольнасцей. Мы не здолеем вырашыць складаныя задачы па навучанні і выхаванні падрастаючага пакалення, калі не звернем асаблівую ўвагу на фігуру настаўніка ў нашай школе. Авалоданне новымі адукацыйнымі тэхналогіямі, інавацыйная дзейнасць павінны стаць зместам паўсядзённай работы нашых педагогаў. Хацелася б звярнуць увагу і на адносіны ў класічным трохкутніку "вучань—настаўнік—бацькі". Дыялог у ім павінен ісці непарыўна, прычым усе тры бакі павінны тут мець і права голасу, і несці пэўную адказнасць. Камандзірская педагогіка падаўлення асобы, педагогіка прыгнёту траўміруе душу маленькага чалавека, можа азлобіць яго на ўсё жыццё. Нашы дзеці ўсе чакаюць, калі яны стануць школьнікамі. Праходзіць год, другі, і ў многіх жаданне вучыцца знікае. Давайце зададзімся пытаннем — чаму? Можа тут ёсць заслуга і настаўніка?

Асабліва хацеў бы падкрэсліць бацькоўскую адказнасць за выхаванне дзяцей. Яна замацавана заканадаўча ў Законе "Аб правах дзіцяці", і зараз урадам распрацоўваюцца нарматыўныя акты, якія вызначаюць гэту адказнасць. Мы павінны ліквідаваць такую з'яву, як дзеці-сіроты пры жывых бацьках, ускласці на бацькоў поўную меру адказнасці за будучыню сваіх дзяцей, за іх паводзіны.

Калі ацэньваць стан адукацыі ў нашай Рэспубліцы па сусветных мерках, то гэта ацэнка можа быць вельмі неадназначная і палярная. З аднаго боку — у нас існаваў і існуе вельмі высокі ўзровень адукацыі, асабліва па прыродазнаўчых дысцыплінах, матэматыцы. Бясспрэчныя дасягненні і нашага ўсенавуча. З другога боку — спадчына жорсткай цэнтралізацыі ў сістэме адукацыі, якая скоўвала, не дазваляла развівацца творчым магчымасцям як вучняў, так і настаўнікаў. Ад чаго ж мы павінны адмовіцца:

— ад наднацыянальнага зместу адукацыі, ад яго уніфікаванасці;

— ад метадаў каманднай педагогікі, якія прыніжаюць чалавечую годнасць і настаўніка і вучня;

— ад думкі аб немагчымасці выбару найбольш падыходзячых для вучняў і настаўніка форм і метадаў навучання, навучальных устаноў;

— ад прыніжэння сацыяльнага прэстыжу адукацыі і ролі настаўніка ў грамадстве.

У выступленні ў Міры ў снежні 1992 года Вячаслаў Францавіч Кебіч адзначыў, што нам патрэбна шматпрофільная школа, заснаваная на нацыянальна-культурных каштоўнасцях. Разам з тым яна не павінна замыкацца ў местачковай самабытнасці і архаічнасці, а быць вялікім нацыянальным акном у сучасны свет ведаў.

Па шляху рэфармацыі школы мы павінны рухацца дастаткова асцярожна, каб не парушыць усё тое каштоўнае, што назапашана нашай школай, нашай сістэмай адукацыі, усё тое, чым можа ганарыцца наша грамадства.

Урад Рэспублікі мае дакладна распрацаваную праграму рэфармацыі адукацыі і, у прыватнасці, нашай школы. Яе выкананне ў поўным аб'ёме павінна гарантаваць:

— кожнаму жыхару Беларусі свабодны доступ да агульнай і прафесійнай адукацыі ў адпаведнасці з яго здольнасцямі і інтарэсамі;

— роўныя магчымасці доступу ўсіх грамадзян да ўсіх відаў адукацыі;

— свабоду выбару мовы навучання;

— вырашэнне праблем матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння ўстаноў адукацыі;

— сусветны ўзровень і прызнанне беларускага дыплома ва ўсіх краінах свету;

— педагогам — узровень жыцця, які адпавядае іх складанай і адказнай працы;

— вучнёўскай моладзі — спрыяльныя ўмовы для навучання і пражывання.

Нарада дырэктараў праходзіла напярэдадні гістарычна важнай падзеі для нашай Рэспублікі — выбараў прэзідэнта. І натуральна, што гэтае надзённае пытанне не маглі не закрануць удзельнікі дырэктарскага форума. Рэфрэнам амаль кожнага выступлення гучалі словы падтрымкі на адрас кандыдата ў прэзідэнты — Вячаслава Францавіча Кебіча.

Пасля выступлення першага намесніка Старшыні Савета Міністраў М.Мясніковіча, у якім ён спыніўся на пытаннях сацыяльна-эканамічнага характару ў сістэме адукацыі і ў Рэспубліцы ў цэлым, яму былі зададзены пытанні агульнага і прыватнага характару. Ці будуць выплачаны стыпендыі студэнтам за летнія месяцы ў чэрвені? Чаму існуючыя цэны не пераводзяцца ў "зайчыкі"? Ці чакаецца карэкціроўка заработнай платы педагагічных работнікаў за I квартал? Як ставіцца ўрад да ўвядзення льготных падаткаў з прадпрыемстваў, якія аказваюць дапамогу навучальным установам? На ўсе пытанні М.Мясніковіч даў аргументаваныя і грунтоўныя адказы.

Не менш пытанняў было зададзена і міністру адукацыі прафесару Гайсёнку. Адной з найбольш хвалюючых аўдыторыю тэм было вырашэнне пытання аб заработнай плаце дырэктараў школ. Віктар Анатольевіч адзначыў, што механізм аплаты працы дырэктара школы павінен прынцыпова мяняцца. Дырэктар — не проста прагрэсіўны настаўнік, а кіраўнік, псіхолаг, метадыст і арганізатар. Гэта павінна абавязкова ўлічвацца.

Абагульняючы размову, прафесар В.А.Гайсёнак падкрэсліў, што стан адукацыі мае рашаючае значэнне для рэфармавання ўсіх сфер дзейнасці грамадства. Узровень адукацыі альбо ставіць межы яго развіццю, альбо адкрывае для яго новыя перспектывы. Наша задача — праз развіццё адукацыі адкрыць новыя гарызонты для развіцця грамадства. Таму настолькі важна сёння ўмець ацаніць сітуацыю, выйсці з тупіку супярэчнасцей і крайнасцей, зрабіць свой выбар. На думку міністра, развіццё адукацыі цесна звязана з імем В.Ф.Кебіча, бо менавіта ён рэальна падтрымлівае распачатую рэфармацыю праграм, у яго ёсць свой канструктыўны погляд на перспектывы адукацыі на Беларусі.

Свайго міністра падтрымалі кіраўнікі школы-інтэрната №3 Партызанскага раёна, школы №147 Савецкага раёна, школы №215 Маскоўскага раёна, школы №117 Заводскага раёна і іншыя.

На сустрэчы быў прыняты зварот да педагагічнай грамадскасці, у якім выразна адзначана пазіцыя ўдзельнікаў нарады — Вячаслаў Францавіч Кебіч з'яўляецца цвёрдым гарантам прагрэсіўнага развіцця адукацыі і грамадства ў цэлым.

Віктар ІЎЧАНКАЎ.

# НГ-іНФАРМ

УПЕРШЫНЮ

## АКНО Ў ЕЎРОПУ

### ПЕРШЫ Ў БЕЛАРУСІ ВЫПУСК ЭКАНАМІСТАЎ-МІЖНАРОДНІКАЎ АДБУДЗЕЦЦА 27 ЧЭРВЕНЯ Ў БЕЛАРУСКІМ ЭКАНАМІЧНЫМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

На працягу многіх гадоў падрыхтоўка спецыялістаў-міжнароднікаў была выключнай прэрагатывай некалькіх элітарных ВНУ Масквы. БДЭУ першым у Беларусі пачаў падрыхтоўку па спецыяльнасці "Міжнародныя эканамічныя адносіны" чатыры гады назад. Уся навучальна-метадычная база пачала фарміравацца тады на аснове апошніх дасягненняў лепшых у гэтай галіне ведаў ВНУ былога СССР: МДІМА, Акадэміі Замежнага Гандлю, Дыпламатычнай Акадэміі.

Вялікую дапамогу ў арганізацыі і ўдасканаленні навучальнага працэсу аказала нашай ВНУ Міністэрства знешнеэканамічных сувязяў.

Каб забяспечыць навучанне па новай спецыяльнасці на самым высокім узроўні, спецыяльна былі сфарміраваны кафедра замежных моваў і кафедра міжнародных эканамічных адносін.

Выкладчыкі прайшлі навучанне ў Акадэміі Замежнага Гандлю, ва універсітэтах ЗША, Германіі, Аўстрыі. Да чытання асобных лекцый і цэлых спецкурсаў шырока прыцягваліся замежныя спецыялісты-практыкі і прафесары. У гэтым навучальным годзе, напрыклад, спецкурс "Фінансавая сістэма ЗША" прачытаны фінансавым саветнікам пры ўрадзе Беларусі Дж.Тыбетсам (ЗША), спецкурс "Актуальныя праблемы рыначнай эканомікі" правёў Пастаянны прадстаўнік Міжнароднага Валютнага Фонду ў нашай рэспубліцы В.Мідэлкаоп (Галандыя).

Можна без перабольшвання сказаць, што на сёння БДЭУ мае найбольш салідны ў Рэспубліцы кадравы, навучальна-метадычны і тэхнічны патэнцыял па падрыхтоўцы эканамістаў-міжнароднікаў.

Намаганні спецыялістаў вядучых кафедраў былі накіраваны ў першую чаргу на тое, каб студэнты авалодалі метадамі макра- і мікраэканамічнага аналізу ў галіне міжнароднага бізнесу, прыёмамі міжнароднага маркетынгу, эфектыўнымі спосабамі падрыхтоўкі і рэалізацыі кантрактаў з замежнымі партнёрамі.

Асаблівая ўвага надавалася моўнай падрыхтоўцы студэнтаў. Яны ж павінны былі авалодаць дзвюма замежнымі мовамі. У гэтым ім дапамагалі высокакваліфікаваныя выкладчыкі са спецыяльна арганізаванай кафедры замежных моваў. Заняткі праводзіліся невялікімі групамі ў лінгафонных кабінетах, аўдыторыях з відэа- і спадарожнікавым тэлебачаннем.

Добра авалодаць электравылічальнай тэхнікай выпускнікі мелі магчымасць на занятках у кампутарных класах, аснашчаных сучаснымі ЭВМ.

Практычнымі навыкамі сваёй будучай прафесіі яны авалодвалі, стажыруючыся ў Міністэрствах знешнеэканамічных сувязяў і замежных спраў, вядучых банках, на буйнейшых прадпрыемствах-экспарцёрах, у сумесных прадпрыемствах і прадстаўніцтвах замежных фірмаў. Каля палавіны студэнтаў прайшлі замежную стажыроўку ў ЗША, Германіі, Англіі, Аўстрыі, Даніі, Фінляндыі, Чэхіі. І таму не дзіўна, што попыт на першых выпускнікоў спецыяльнасці МЭА аказаўся вялікі. Ужо за паўгода да атрымання дыпломаў каля 60 працэнтаў студэнтаў працавалі на дастаткова адказных участках у Міністэрстве знешнеэканамічных сувязяў, Белзнешэканомбанку, Банках "Беларусь", "Прыор", "Элітбанку", і шэрагу сумесных прадпрыемстваў і прадстаўніцтваў замежных фірмаў.

Нашы студэнты ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы пакета дакументаў да візіту прэзідэнта Клінтана ў Беларусь.

Высокакваліфікаваныя і энергічныя эканамісты-міжнароднікі вельмі патрэбны нашай краіне асабліва цяпер, у няпростую пару набыцця ёю свайго месца на міжнародных гандлёва-эканамічных перакрыжаваннях.

Хочацца верыць, што прафесійны рост нашых першых выпускнікоў будзе хуткім і плённым, што яны ўнясуць дастойны ўклад у развіццё і ўдасканаленне знешнеэканамічных сувязяў Беларусі.

**Сяргей КРЫЧЭЎСКІ,**
кандыдат эканамічных навук, магістр, загадчык кафедры Міжнародных эканамічных адносін.

ЛЕТНІ РАКУРС

## Курс — на Галандыю

По лініі рэспубліканскага Фонду міру на аздараўленне ў Галандыю адправіліся 30 жлобінскіх школьнікаў. Гэта вучні 4 — 5 класаў, якія з'яўляюцца сіротамі або не з поўных сем'яў.

Галандцы за дзецьмі прыехалі на сваім універсальным аўтобусе, у якім ёсць кухня, відэасалон і іншыя выгоды. Школьнікі будуць адпачываць на працягу двух месяцаў.

Прыемна, што вучні падрыхтавалі змястоўную канцэртную праграму, узялі з сабой нацыянальныя беларускія касцюмы.

**Мікалай ШУКАНАЎ,**
супрацоўнік жлобінскай райгазеты "Новы дзень".

## ЗНАХОДКІ Ў "ЯСНАЙ ПАЛЯНЕ"

**Наш летнік "Ясная паляна" — мінімальна добраўпарадкаваны, не мае ў наяўнасці сучасных карпусоў, басейнаў, іншых выгод. Аднак размешчаны ён у цудоўным, на дзіва прыгожым месцы і сама прырода самым лепшым чынам уплывае на аздараўленне дзяцей.**

Педагагічны калектыў летніка імкнецца стварыць для дзяцей камфорт, прыемнае асяроддзе, у якім бы панавалі добразычлівасць, узаемапавага, прыгажосць адносін і калектыўнага жыцця. Адпачынак і дзейнасць дзяцей накіраваны на пазнанне і дапамогу прыродзе, на раскрыццё здольнасцяў і талентаў.

Ідэй і знаходак, якія прапануюць дзеці і педагогі, заўсёды хапае, але як вызначыць з іх самыя каштоўныя і абраць для іх цікавую форму? Вельмі няпроста захапіць дзяцей і дарослых адной, але самай цікавай ідэяй і зрабіць так, каб на яе здзяйсненне працавалі з ахвотай і энтузіязмам літаральна ўсе. Мы спрабавалі ствараць профільныя атрады, але ва ўмовах нашага, даволі невялічкага летніка гэта аказалася не лепшым варыянтам.

Шматдзённыя гульні — вось што прыйшлося даспадобы і дзецям, і дарослым. Менавіта ў шматдзённых гульнях "Вандраванне ў краіну Сосен", "Лесавік просіць дапамогі", "Пошукі каралеўскага дрэва" ёсць магчымасць знітаваць адзіным сюжэтам вясёлы конкурс і пазнавальную віктарыну, канцэрт народнай песні і працоўны дэсант, экалагічную вандроўку і падарункі самым маленькім. У кожнай такой гульні абавязкова прысутнічае сакрэт, тайна, сюрпрыз, дакладная дапамога навакольнаму асяроддзю, практычныя карысныя справы.

Рыхтуемся урачыста адзначыць дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Мы ўжо маем свае традыцыі ў арганізацыі гэтага свята: наведванне салдацкіх магілак і ўскладанне на іх гірлянды славы, віншаванне ветэранаў вайны, якія працуюць у летніку ці жывуць непадалёку. Але ў юбілейным годзе гэтаму святу будзе нададзена асаблівая ўвага.

**Алена ЛАЗІНСКАЯ,**
намеснік начальніка па выхаваўчай рабоце летніка "Ясная паляна".

ПРАПАНУЮ ДЛЯ АБМЕРКАВАННЯ

**Сёлета спаўняецца 30 год з дня стварэння першага інжынерна-педагагічнага факультэта. З гэтай нагоды ў Беларускай політэхнічнай акадэміі створаны арганізацыйны камітэт, пачалася падрыхтоўка да юбілейнай даты. Аднак, па некаторых, бачных навукоўцам, прыкметах, можа здарыцца так, што святкаванне юбілею можа перарасці ў памінкі аб інжынерна-педагагічнай адукацыі.**

## ДЫК СВЯТКАВАННЕ ЦІ ПАМІНКІ?

### ЯК АДРАДЗІЦЬ ІНЖЫНЕРНА-ПЕДАГАГІЧНУЮ АДУКАЦЫЮ

Аксіёмай з'яўляецца той факт, што функцыянаванне прафесійнай адукацыі павінна забяспечвацца прафесіяналамі-педагогамі. Пры гэтым зафіксуем, што і ў структуру паняцця "прафесійная адукацыя" ўваходзяць не толькі ПТВ, ВПВ, ССНУ, ліцэі і каледжы, але і вышэйшыя навучальныя ўстановы, дзе таксама здзяйсняецца прафесійная адукацыя і прафесійная падрыхтоўка.

У гэтым і цяпер пакуль што няма сэнсу заклікаць да разгортвання работы па падрыхтоўцы выкладчыкаў для прафесійнай адукацыі: на словах гэта, здаецца, усе разумеюць. Аднак жа нават паверхневае аналітычнае даследаванне па выяўленні ўзроўню прафесіяналізму інжынерна-педагагічных работнікаў вытворча-тэхнічных вучылішчаў і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, вышэйшых навучальных устаноў ўказвае на неабходнасць прыняцця неадкладных аператыўных мер па карэнным змяненні адносін да паднятай праблемы. На сённяшні дзень выразна бачна, што ўвесь інтэлектуальны патэнцыял, назапашаны з моманту адкрыцця ў нашай Рэспубліцы першага ў былым СССР інжынерна-педагагічнага факультэта ў Беларускім політэхнічным інстытуце практычна страчаны і бяздумна рассеяны па іншых сферах. Усе лепшыя ідэі, практыка і вопыт, метадычныя напрацоўкі і вынікі навуковых даследаванняў політэхнікаў " перайшлі ў спадчыну" Расіі. І такім чынам Беларусь засталася ні з чым. Хіба што ацалелі і ледзьве дыхаюць астраўкі старэючых энтузіястаў, якія ўсё яшчэ не губляюць надзеі і робяць спробы па энерцыі нешта зрабіць, скажам, у Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, БАТУ, Мазырскім педагагічным інстытуце...

У нашай суверэннай дзяржаве на бягучы момант ужо можна па пальцах пералічыць тых, хто абавязаны і можа на высокім навуковым і метадычным узроўні адрадзіць школу падрыхтоўкі прафесіяналаў для прафесійнай адукацыі. Гэтыя людзі гатовы з уласцівым ім энтузіязмам уключыцца ў нялёгкую працу па адраджэнні. Але ж менавіта на такім шляху іх і чакаюць перашкоды ў форме традыцыйнай бюракратычнай машыны і састарэлай сістэмы сацыяльнай недасканаласці.

Менавіта з надзеяй на станоўчыя перамены я асабіста, як і шэраг маіх калег-аднадумцаў, лічу неабходным прапанаваць на абмеркаванне пэўныя накірункі па распрацоўцы арганізацыйна-дзейнаснага праекта адраджэння інжынерна-педагагічнай адукацыі. У аснову прапануемай распрацоўкі ўкладваем метадалагічную схему трансляцыі, у якой рэфлексіі адводзіцца дамінуючая функцыя (што закладзена ў класічных работах метадолагаў Анісімава, навукоўцаў бацькі і сына Шчадравіцкіх, Папова, Мацкевіча і іншых).

I этап. Стварэнне план-карты работ па разгортванні і праектаванні якасна новай сістэмы прафесійнай адукацыі. Пошук і аднаўленне кадравага патэнцыялу для пачатку працы.

II этап. Распрацоўка дактрыны прафесійнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь (праз сістэму падрыхтоўкі заканадаўчых актаў, пакета дакументаў, у тым ліку і Закона аб прафесійнай адукацыі). Выхад для канчатковага вырашэння праблемы на Вярхоўны Савет.

III этап. Аналітычная работа па выніках зрэзу сітуацыі ў вобласці кадравага забеспячэння прафесійнай адукацыі і прафесійнай падрыхтоўкі. Выкарыстанне вынікаў вопыту функцыянавання ВНУ Беларусі ў азначаным накірунку. Адсочванне інавацый ноу-хау.

IV этап. Распрацоўка адукацыйных стандартаў (гл. нашы артыкулы ў "Настаўніцкай газеце" у нумары ад 17 лістапада і 8 снежня 1993 года і 28 мая 1994-га. Дарэчы, чацвёрты этап з'яўляецца самым складаным і дарагім. Нашы спробы па ягонаму фінансаванню ў бягучым годзе аказаліся безвыніковымі. Каардынацыйны савет палічыў запрошаную суму ў 200 млн. рублёў задужа вялікай і адмовіў у фінансаванні наогул.

V этап. Стварэнне сістэмы бесперапыннай прафесійнай адукацыі (у адпаведнасці з прафесійнымі палямі), калі ў інфраструктуру ўвойдуць ПТВ, ВПУ, ліцэі, каледжы, ВНУ. Стварэнне галаўной вышэйшай навучальнай установы (распрацоўка канцэпцыі яе функцыянавання, структуры, кадравага і рэсурснага патэнцыялу, навуковага і метадычнага забеспячэння).

VI этап. Падрыхтоўка кадраў для адноўленай сістэмы прафесійнай адукацыі (па ўсіх прафесійных палях) праз аспірантуру, дактарантуру, стажыроўку, павышэнне кваліфікацыі.

VII этап. Стварэнне інтэрбанка даных па праблемах прафесійнай адукацыі з выкарыстаннем інфармацыйных ЭВМ-сістэм, электроннай пошты, спадарожнікавай сувязі і, канешне ж, абавязковага справаздачнага матэрыялу ўсіх спецыялістаў, якія знаходзяцца ў аплачваемых валютай камандзіроўках у розных краінах бліжняга і асабліва далёкага замежжа.

**Барыс ПАЛЬЧЭЎСКІ,**
прарэктар па навукова-метадычнай рабоце ІПК і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі, доктар педагагічных навук, прафесар, выпускнік інжынерна-педагагічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута 1967 года.

## ВЕСТКІ З ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

### ПРАФСАЮЗЫ НЕПАКОЯЦЦА

111 удзельнікаў пленума Савета Гомельскага аб'яднання прафсаюзаў падпісалі адкрытае пісьмо Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Ф.Кебічу, у якім выказалі занепакоенасць перспектывамі летняга аздараўлення дзяцей з чарнобыльскай зоны.

### ЗБОРНІК ВЕРШАЎ НАСТАЎНІЦЫ

Тыражом у пяць тысяч экземпляраў убачыў свет зборнік вершаў настаўніцы жлобінскай сярэдняй школы № 10 Марыі Смірновай "След на зямлі". Гэта стала магчымым пры спонсарскай падтрымцы гарадскіх аддзелаў адукацыі і культуры, Беларускага металургічнага завода, прыватнага прадпрыемства "Алеко".

### ТУРНІР ІНТЭЛЕКТУАЛАЎ

Трэці міжнародны юнацкі турнір па інтэлектуальных гульнях сабраў у Гомелі 28 каманд з нашай Рэспублікі, Расіі, Украіны, Малдовы. Каманда Гомеля "Зялёны змій" заняла другое месца ў турніры "Што? Дзе? Калі?" А каманда Дзяржуніверсітэта імя Ф.Скарыны "Злавесныя сухары" стала пераможцай у "Брэйн-рынгу".

### ПІЯНЕРЫ ВЯРТАЮЦЦА Ў ХОЙНІКІ

250 вучняў малодшых класаў Хойніцкага раёна прыняты ў піянеры. Цяпер у кожнай школе ствараюцца піянерскія дружыны. Дзеці будуць вывучаць гісторыю піянерскага руху.

### НЕМЦЫ ЎБАЧАЦЬ ПРЫПЯЦЬ ЗІМОЙ

Цэлую калекцыю пейзажных палотнаў аб краявідах Мазыршчыны сабраў (са сваіх лепшых работ) настаўнік сярэдняй школы № 14 Мікалай Дубкоў. Адна з яго работ — "Прыпяць зімой" — зацікавіла мастацтвазнаўцаў Германіі. Таму настаўнік перадаў яе ў якасці падарунка прадстаўнікам Чырвонага Крыжа Германіі.

### ЧАЯПІЦЦЕ Ў ЧАПЛІНСКАЙ ШКОЛЕ

Спартыўную залу вучні Чаплінскай сярэдняй школы Лоеўскага раёна на нейкі час ператварылі ў вясковую хату і запрасілі бацькоў на "Вячоркі". У пакоі два ложкі засланы тканымі посцілкамі, на вокнах вышытыя ручнікі з карункамі. Былі арганізаваны танцы, рукадзелле, конкурс на самую ўмелую гаспадыню, пачастункі чаем, блінамі і цукеркамі.

**Анатоль РУДНІН.**

## Музей аб мужнасці расказвае

Гомельская школа №3 мае цікавую гісторыю. Больш за 600 яе выхаванцаў у гады Вялікай Айчыннай вайны змагаліся на фронце і ў партызанскіх атрадах. Многія загінулі. А тыя, каму пашчасціла выжыць, прыходзяць у родную школу. Дзеці павінны ведаць праўду аб тых суровых саракавых гадах, пачуць пра гераізм і мужнасць партызан, падпольшчыкаў і чырвонаармейцаў.

У школе ўжо некалькі год дзейнічае музей юных абаронцаў Радзімы. Менавіта тут выхоўваецца патрыятызм, фарміруюцца павага і любоў да сваёй Айчыны. Дырэктар музея, гвардыі палкоўнік запасу, кандыдат педагагічных навук С.Ф.Шакараў, які арганізоўвае злёты ветэранаў вайны, актыўна займаецца і іншай грамадскай работай. Ён аўтар некалькіх кніг для моладзі.

Вучні даўно сябруюць з Героем Савецкага Саюза, падпалкоўнікам у адстаўцы Дзмітрыем Нікандравічам Пенязьковым, які часта дзеліцца з імі ўспамінамі пра вайну.

**Г.АТРОШЧАНКА.**

## КОРАТКА

Урад Літвы падрыхтаваў і зацвердзіў праграму падрыхтоўкі школ для нацыянальнай меншасці на перыяд да 2000 года.

* * *

У жніўні бягучага года ўсе школьнікі Санкт-Пецярбурга, якія закончылі дзесяты клас з залатым медалём, будуць адпраўлены ў замежную паездку за кошт гарадскога бюджэту.

* * *

На адпачынак у Італію адправілася 370 дзяцей з забруджаных радыенуклідамі раёнаў Гомельшчыны.

* * *

На Магілёўшчыне за першы квартал гэтага года нарадзілася на 221 дзіця менш, чым за адпаведны перыяд мінулага года, а памерла на 324 чалавекі больш за мінулагодні.

**Міхась АНІСЕНКА.**

# НГ-іНФАРМ

ВІНШУЕМ!

## ПРЫСВОЕНА ВУЧОНАЕ ЗВАННЕ

**Рашэннем Атэстацыйнай калегіі Міністэрства адукацыі ад 29 красавіка 1994 г. прысвоены вучоныя званні навукова-педагагічным работнікам**

### Вучонае званне дацэнта прысвоена

па кафедры прапедэўтыкі дзіцячых хвароб па курсу "Паліклінічнае навучанне"
ВАЙТОВІЧ Таццяне Мікалаеўне — Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут

па кафедры стаматалогіі дзіцячага ўзросту
МІХАЙЛОЎСКАЙ Валянціне Паўлаўне — Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут

па кафедры траўматалогіі, артапедыі і ВПХ па курсу "Анестэзіялогія і рэаніматалогія"
ПРАСМЫЦКАМУ Алегу Цярэнцьевічу — Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут

па кафедры філасофіі
МАРТЫНАВУ Уладзіміру Фёдаравічу — Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт

па кафедры беларускага мовазнаўства
ЦЯСЕВІЧ Алене Міхайлаўне — Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт

па кафедры арганізацыі і планавання прадпрыемстваў АПК
АЎСЯНІКАВУ Валерыю Сцяпанавічу — Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт

па кафедры тэорыі музыкі
САВІЦКАЙ Вользе Парфёнаўне — Беларуская акадэмія музыкі

па кафедры філасофіі
БАРАЗДЗІНОЙ Галіне Васільеўне — Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт

па кафедры інжынерна-тэхналагічнай падрыхтоўкі
ЯЎСЕЕВАЙ Алене Анатольеўне — Гродзенскі дзяржаўны універсітэт

па кафедры асноў медыцынскіх ведаў і аховы здароўя дзяцей
ШПАКАВУ Андрэю Іванавічу — Гродзенскі дзяржаўны універсітэт

па кафедры начартальнай геаметрыі і чарчэння
ГАБРАЛЁВУ Мікалаю Мікалаевічу — Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут

па кафедры акушэрства і гінекалогіі
ЖУРАЎЛЁВУ Юрыю Уладзіміравічу — Віцебскі медыцынскі інстытут

па кафедры мікрапрацэсарнай тэхнікі і інфармацыйна-кіруючых сістэм
РОДЗІНУ Анатолю Ехіелевічу — Беларускі дзяржаўны універсітэт транспарту

па кафедры тэорыі механізмаў, дэталяў машын і прыкладной механікі
ЗАВАРОТНАМУ Аляксандру Уладзіміравічу — Беларускі дзяржаўны універсітэт транспарту

### Вучонае званне дацэнта (без вучонай ступені кандыдата навук) прысвоена

па кафедры футбола і хакея
АНДРУЖЭЙЧЫКУ Міхаілу Якаўлевічу — Акадэмія фізічнага выхавання і спорту Рэспублікі Беларусь

па кафедры народна-інструментальнай творчасці
ШЫБАЕВАЙ Людміле Васільеўне — Беларускі універсітэт культуры

па кафедры фізічнага выхавання
АНДРЭЕВАЙ Ніне Іванаўне — Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут

**Рашэннем Атэстацыйнай калегіі Міністэрства адукацыі ад 27 мая 1994 г. прысвоены вучоныя званні навукова-педагагічным работнікам**

### Вучонае званне прафесара прысвоена

па кафедры міжнародных адносін
РАЗАНАВУ Анатолю Аркадзьевічу — Беларускі дзяржаўны універсітэт

па кафедры лясных машын і тэхналогіі лесанарыхтовак
ЛЕБЯДЗЮ Сямёну Сцяпанавічу — Беларускі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт

па кафедры матэматычнага забеспячэння аўтаматызаваных сістэм кіравання
СОЎПЕЛЮ Ігару Васільевічу — Беларускі дзяржаўны універсітэт

па кафедры тэарэтычнай фізікі
МАКСІМЕНКУ Мікалаю Васільевічу — Гомельскі дзяржаўны універсітэт

па кафедры алгебры і геаметрыі
СКІБЕ Аляксандру Мікалаевічу — Гомельскі дзяржаўны універсітэт

па кафедры гісторыі беларусазнаўства
СТАШКЕВІЧУ Мікалаю Сцяфанавічу — Нацыянальны інстытут гуманітарных навук

па кафедры шматканальнай электрасувязі
КІРЫЛАВУ Уладзіміру Іванавічу — Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі

па кафедры дыферэнцыяльных ураўненняў
МІНЮКУ Сцяпану Андрэевічу — Гродзенскі дзяржаўны універсітэт

па кафедры эканамічнай геаграфіі Беларусі і дзяржаў Садружнасці
СІДОРУ Сяргею Іванавічу — Беларускі дзяржаўны універсітэт

па кафедры матэматычнага забеспячэння сістэм аўтаматызаванага праектавання
КАВАЛЁВУ Міхаілу Міхайлавічу — Беларускі дзяржаўны універсітэт

ЭКЗАМЕНЫ Ў ШКОЛЕ

## ТАЙНА ЧЫРВОНЫХ РУЖАЎ

У мяне — ружы, чырвоныя, далікатныя і... вельмі разумныя. Хаджу з імі па Полацку і адчуваю сябе імяніннікам. Як тут не адчуеш, калі ледзьве не кожны другі запыняе, пытаецца, дзе купіў такія прыгожыя, цудоўныя кветкі. На гарадскім рынку бабулькі-гандляркі прычапіліся. Гэта, відаць, у іх прафесійная цікавасць узыграла. Паспрабаваў растлумачыць, што кветкі я не купляў нідзе, што мне іх проста падарылі. Бабулькі ў недаверлівым здзіўленні застылі, ды раптам спахапіліся:

— Ну, то чаго ж ты стаіш, хлапец, прадавай хутчэй.

Як ім растлумачыць, што нашчасце, яшчэ не ўсё на свеце прадаецца і купляецца...

Бабулькі во гандлююць, нават не хаваючыся, магазінным віном. Просяць за бутэльку "Пікантнага" дзесяць тысяч, нахвальваюць свой тавар, далібог, як даўней селянін нахвальваў на базары сваю смятанку ці агурочкі, і нават вокам не зміргнуць. Зараз гэта называецца бізнесам.

А я, дзівак, павязу свой "тавар" аж далёка дадому, пастаўлю яго ў букет. І ружы доўга-доўга будуць нагадваць мне аб гэтай камандзіроўцы. А калі ўсё ж павярнуць, ападуць іх чароўныя пялёсткі, паруплюся, каб галінкі пусцілі карэньчыкі. Тамара Пятроўна Гарэлікава, дырэктар сёмай полацкай школы, доўга мне тлумачыла, як гэта зрабіць. Трэба зрэзаць сцяблінкі з пупышкамі, змясціць іх у ваду, пад шкляны каўпак і гэдак далей. Тамара Пятроўна і падарыла мне ружы...

Толькі што закончыўся "яе" экзамен. Дзевяты "А" клас, у якім дырэктар выкладае беларускую мову, пісаў кантрольны дыктант. Сёлета пашанцавала: дыктант аказаўся лёгкім, і больш як палова класа напісала яго на чацвёркі і 4 пяцёркі. Дзевяты "А" — клас моцны, я пераканаўся яшчэ восенню. Тады нават здзівіўся, з якой ахвотаю, як многа яны чытаюць, як лёгка, доказна і аргументавана ўмеюць паспрачацца на ўроку. Можна было нават падумаць, што гэта не простыя, а якіясь "выбраныя" дзеці. Як-ніяк сёмая школа ў Полацку таксама не зусім простая, бо на яе базе створана нацыянальная гімназія. Дзеці прыязджаюць сюды вучыцца, лічы, з усяго Полацкага раёна, прымаюцца па конкурсу. Да таго ж, гэта школа яшчэ з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы, і можна сказаць, лёгка таго вучыць, хто сам вучыцца хоча. Калі ў сёмай Полацкай школе робяць пераклады вершаў на англійскую мову, ды не якія-небудзь падрадкоўнікі, а сапраўдныя літаратурныя пераклады, то што ім, здавалася б, напісаць беларускі дыктант. Але ж не.

Па-першае, гімназія тут "дарасла" толькі да шостага класа.

Па-другое, як ні парадаксальна, але ж у Полацку зрабіць літаратурны пераклад на англійскую дзецям да гэтага часу бывае лягчэй, чымся вывучыць сваю, беларускую мову. І нацыянальная гімназія, нават смешна, тут да гэтага часу лічацца... рускамоўнай школаю. Праўда, дзякуючы высілкам найперш яе дырэктара, вялікага энтузіяста і шчырага прыхільніка беларушчыны, гэтая так званая "рускамоўная" працуе на нацыянальнае адраджэнне. Але ж каб толькі не заміналі. Скажам, і сёлета, у дадатак да двух гімназічных класаў, у якіх тут строгі конкурсны адбор, да якіх і адпаведныя патрабаванні, школе прапануюць адкрыць яшчэ і звычайны... рускамоўны клас (для тых, хто не прайшоў па конкурсу?), маўляў, калі ёсць попыт, як не пайсці насустрач шматлікім пажаданням працоўных палачан. Ці не паўтараецца зноўку гісторыя, калі з Полацка бацькі дасылалі ліст у ЮНЕСКА з просьбаю... абараніць іх ад беларускай мовы? Далібог, знарок не прыдумаеш.

Ну, а па-трэцяе, раз на раз таксама не заўсёды прыходзіцца. Сёлета пашанцавала, бо дыктант выдаўся лёгкім. А іншы раз прапануюць такі тэкст, дзе процьма аўтарскіх знакаў прыпынку, якія не растлумачаны ніводным пунктуацыйным правілам. Пісьменніку, бачыце, так спадабалася, ён і напісаў. Але ж прычым тут школьная праграма? Прабачце, калі я бачу гэткія экзаменацыйныя тэксты, узнікае жаданне пасадзіць за парту іх складальнікаў. І няхай пішуць. А потым ацаніць работы гэтых паважаных дзядзькаў і цётак па пяцібальнай шкале. Баюся, нават і сярод іх аказаліся б двоечнікі...

Півоні, нарцысы, ружы. У класе гэтулькі яркіх, па-святочнаму строгіх, па-чэрвеньску свежых кветак, што міжволі ствараецца адпаведны настрой, а экзаменацыйная камісія літаральна патанае ў гэтай пышнай раскошы. Пакуль настаўнікі-беларусаведы скрупулёзна, нават па некалькі разоў правяраюць-перапраўляюць экзаменацыйныя работы, нічога не застаецца рабіць, як гартаць паперы. Вось вельмі цікавае каштоўнае ўказанне настаўніку па ацэнцы экзаменацыйных работ. Больш як пяць перапраўак у кантрольным дыктанце лічацца за памылку, але толькі ў тым выпадку, калі гэтая памылка не прыводзіць да двойкі. Затое, каб атрымаць пяцёрку, нельга дапусціць нават трох выпраўленняў. Запытацца, дзе ж тая справядлівасць, калі мы яшчэ са школьнага ўзросту патураем гультаям і разам з тым баімся паставіць выдатніку яго заслужаную пяцёрку? Прычым робім гэта на афіцыйным узроўні. Ну, зусім як у той тэлевізійнай рэкламе, дзе ледзьве не абагаўляецца суперсучасны серадначок Сідараў, які "абмывае" тройку "Хершы-колаю". Ніякай справядлівасць карова языком злізала. Не кажучы пра тое, што складальнікі падобных указанняў зусім ігнаруюць псіхалагічны фактар экзамену: хваляванне і г.д., як быццам самі яны ніколі не здавалі экзаменаў. Між тым, гэтыя самыя тры перапраўкі альбо адна выпадковая памылка падчас перакрэслівае высілкі многіх гадоў стараннай, добрасумленнай вучобы. Навошта, скажыце, школьныя экзамены, падобныя да славутай гульні "Поле цудаў", дзе адна літара вырашае ўсё, а фартуна ўсміхаецца далёка не заўсёды людзям высокаінтэлектуальным і эрудзіраваным. Нават Бураціна, закопваючы свае залатыя на полі цудаў, у краіне дурняў, рызыкаваў меней, чым рызыкуе сёння выдатнік на экзамене.

Але ж наша краіна прэтэндуе на большае, чымся тая, дзе вучыўся вядомы казачны герой.

Лічу, устаноўка на тое, што агульная адзнака не павінна перавышаць адзнакі на экзамене, мякка кажучы, не зусім дэталёва выверaная. Апошняе слова тут павінна заставацца за настаўнікам-прадметнікам, які, зразумела, ведае свайго вучня значна лепей, чымся складальнікі каштоўных рэкамендацый. Калі экзаменуем настаўніка, тады давайце шчыра аб гэтым і прызнаемся. Калі ж, усё-такі ацэньваем шматгадовую работу вучняў, тады давайце не будзем крыўдзіць настаўніка недаверам і падазрэннямі.

Ну, ды гэта да слова прыйшлося.

А кветкі ў мяне сапраўды "разумныя". З імі неяк прыемней хадзіць па Полацку: цяплей на душы і настрой адпаведны — святочны. Нездарма ж яны — са школы, дзе пакуль яшчэ ўмеюць зрабіць святочным і будні, дзе да цяперашняга часу ўсё яшчэ захавалася атмасфера гармоніі жыцця. Толькі ж не будзем гэтую тайну чырвоных ружаў распавядаць кожнаму сустрэчнаму палачаніну.

**Уладзімір МІХНО.**

